**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№20(684)**
**16 траўня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



# Квітнеюць у Глыбокім вішні! Улетку будзе фэст!



■ **Уладзімір Скрабатун**

Цяпер самыя запатрабаваныя здымкі на Беларусі – гэта здымкі квітнеючых вішнёвых садоў на Глыбоччыне! І да аўтара гэтых радкоў звярталіся па дапамогу (Напрыклад, http://news.tut.by/kaleidoscope/348132.html). Але ці трэба доўга тыя квітнеючыя сады шукаць? Не! Пяць крокаў з хаты на сваёй жа вуліцы Шпітальнай – вакол суцэльная белая квецень! Незвычайна прыгожа ў гэтым годзе квітнеюць вішні! Стаяць яны, нібы нявесты ў вясельных строях.

Між тым ўсе просяць сфатаграфаваць менавіта Лапыровы вішні. Але ў Глыбокім – марная справа! Тут столькі гатункаў панавозілі камерсанты: і нізкарослыя, і карлікавыя... Імаверна, што ў самім Глыбокім іх засталося не так ужо і шмат. Раней у кожнага перад вокнамі раслі вялікія вішнёвыя дрэвы з буйнымі ягадамі. Каб абабраць іх – трэба было ставіць драбіну. Цяпер жа у глыбачанаў іншая мода – кветкі, газоны, мініяцюрныя сажалкі з лілеямі, скульптурныя кампазіцыі...

Трэба ехаць у Харашкі і Шуневічы, якія калісь былі за паўкіламетра ад Лапыровай сядзібы. Там, у сталых жыхароў, яшчэ знойдзеш тыя самыя Лапыровы вішні.

Але мяне хвалюе іншая тэма, якая наўпрост звязаная з ураджаем вішань у гэтым годзе , і не важна: Лапыровых ці яшчэ якіх іншых – мала пчолаў лётае! Вось бяда! Трэба нейкім чынам нашым мясцовым уладам заахвоціць людзей і развіваць у самім горадзе і ваколіцах пчалярства. То які фэст без ягад вішань, а кветкам вішань патрэбныя пчолкі!

Нагадаем, з 21 па 27 ліпеня ў нашым горадзе, адным з самых прыгожых і ўтульных на Беларусі, упершыню пройдзе "Вішнёвы фэст". Аналагаў такога фэсту на Беларусі няма. Ёсць у ЗША, Расіі, Харватыі і Літве.

**На здымку: глыбачанка Кацярына Барсук на фоне квітнеючага вішнёвага саду.**
*Фота Яўгена Самсонава.*

Мёрскі раён

# Галоўны брэнд краю

■ Чэслаў Якубовіч

**У глыбінцы цяпер няшмат прамысловых прадпрыемстваў, і вытворцам адсюль няпроста знайсці свайго спажыўца.**

Вось і ў Мёрскім раёне вядучым такім прадпрыемствам стаў мясцовы мясакамбінат. На ім працуе ўжо трыста чалавек, што для невялікага гарадка значная лічба. Яшчэ лепш, што больш двухсот найменняў прадукцыі камбіната пад гандлёвай маркай "Мёры – мясныя прасторы" запатрабаваныя на рынку. Дарэчы, да новага сезону адпачынку тэхнолагі прадпрыемства падрыхтавалі чарговую навінку – сырыя калбаскі-грыль "Дэлікатэсныя". Ад іншых аналагаў гэту прадукцыю вылучае тое, што ў якасці дабавак тут выбралі … ягадкі журавін. Такі смачны прадукт можна хутка прыгатаваць на вогнішчы, ён не губляе сваіх якасцей і ў адвараным выглядзе. На камбінаце карыстаюцца толькі ўласнай шчапой для надання своеасаблівага паху і смаку і новай вэнджанай каўбасы "Маскоўская". Мёрцы са сваімі мяснымі вырабамі пакрыху прабіваюцца на рынкі Масквы, Санкт-Пецярбурга, Пскоўскай і Смаленскай абласцей. Большая частка прадукцыі рэалізуецца на Віцебшчыне і ў беларускай сталіцы. Зараз намаганні калектыву скіраваны на будаўніцтва новага сучаснага халадзільніка для захоўвання да 500 тон мясной сыравіны. Аб узроўні дзейнасці прадпрыемства гаворыць і тое, што яго візітоўка, вараная каўбаса "Доктарская прэстыж" была прызнана лепшай на апошняй міжнароднай выставе "Белагра" ў намінацыі "Выбар спажыўца".

Пастаўскі раён

# Навучыліся будаваць

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам прыбавілася праблем у айчыннай будаўнічай галіны, яна паўсюдна стала адчуваць адток на працу за мяжу кваліфікаваных кадраў.** З падобнымі цяжкасцямі сутыкнуўся і калектыў адной з буйнейшых у аб'яднанні "Полацксельбуд" арганізацый "Рассвет Пастаўскі", да якой далучаны яшчэ і калгас. Аднак нягледзячы на складанасці, летась усе запланаваныя аб'екты аграбудпрадпрыемства здала заказчыкам. Сярод іх былі і два шматкватэрныя жылыя дамы ў райцэнтры і шматпавярхоўка на 12 кватэр для працаўнікоў сельгаспрадпрыемства "Камайскі-агра". А найбольш намаганняў прыйшлося прыкласці ў ўзвядзенні новага жылога корпуса на 105 месц для Дунілавіцкага псіханеўралагічнага дома-інтэрната для прэстарэлых і інвалідаў. Гэты жылы корпус атрымаўся светлым і ўтульным, у прыгожы аб'ект коштам 35 мільярдаў рублёў будаўнікі пад кіраўніцтвам дырэктара Альфрэда Мальца ўклалі душу. Гэта адзначылі ўсе, хто пабываў у новым доме-інтэрнаце, у якім сёлета ўзводзіцца лячэбна-бальнічны корпус. За паспяховае ўзвядзенне важнага сацыяльнага аб'екта калектыў адначылі на нацыяльным узроўні. Аграбудфірма "Рассвет Пастаўскі" выйшла пераможцам рэспубліканскага конкурсу "За лепшыя дасягненні будаўнічай галіны Рэспублікі Беларусь у 2012 годзе". Калектыву ўручаны спецыяльны знак і адпаведны дыплом Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі і галіновага прафсаюза за ўзорную працу па развіцці рэгіёнаў. У мінулым годзе рассветаўцы таксама выканалі значны аб'ём работ па ўзвядзенні сучаснага сырзавода ў райцэнтры. Сёлета яны завершаць рэстаўрацыю шэрагу збудаванняў мясцовай славутасці – Палаца Тызенгаўзаў, за год выканалі работ уласнымі сіламі больш чым на 61 мільярд рублёў.

Полацкі раён

# Гучаць напевы над Дзвіной

■ Станіслаў Раманчук

**Самы старажытны горад краіны Полацк даўно стаў і адным з важнейшых цэнтраў культурнага жыцця Беларусі.**

Аб гэтым засведчыў чарговы XXVI Міжнародны фестываль старажытнай і сучаснай камернай музыкі, які пачаўся яшчэ ў пачатку красавіка і завяршыцца толькі ў міжнародны дзень музеяў, у суботу 18 мая. Месцам яго правядзення зноў стала канцэртная зала знакамітага Сафійскага сабора з яго цудоўнай акустыкай і пявучым арганам. Для шматлікіх прыхільнікаў сапраўднага мастацтва, для тых, хто хацеў адпачыць душой, сёлета арганізатарамі фестывалю было прыгатавана шмат цікавых сустрэч і запрошана многа відомых выканаўцаў не толькі з Беларусі, але і з Расіі, Эстоніі, Літвы, Ізраіля, Францыі і з далёкіх Аргентына і Кубы. Па традыцыі адкрыў канцэртную праграму сімфанічны аркестр і акадэмічны хор Белтэлерадыёкампаніі, якіх дапоўнілі вядучыя майстры сімфанічнай сцэны Літвы. Дырыжыраваў аркестрам вядомы маэстра з Эстоніі Эркі Пекх. Праз тыдзень тут выступілі вядучыя камерныя калектывы і гітарысты з Расіі. Шэдэўральным стала выступленне потым у рамках Сусветнага дня аргана французскага майстра П'ера Жыво, які бліскуча выканаў лепшую класічную музыку сваёй краіны, бо ён іграе ў знакамітым саборы Нотр Дам дэ Парыж. Пад скляпеннямі сабора палачанам можна было паслухаць таксама класічны джаз і музыку мюзіклаў, пабываць на вечарах рамансу і неапалітанскай музыкі. Развітаецца фестываль са слухачамі мелодыямі Лацінскай Амерыкі і неўміручага аргентынскага танга.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 16.05.13 | | | | Пятніца 17.05.13 | | | | Субота 18.05.13 | | | | Нядзеля 19.05.13 | | | | Пнд.20.05.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +18 | +24 | +20 | +14 | +21 | +28 | +23 | +16 | +22 | +29 | +22 | +15 | +19 | +23 | +20 | +13 | +16 | +22 |
| Ціск | 744 | 745 | 744 | 745 | 746 | 746 | 745 | 745 | 744 | 744 | 741 | 742 | 742 | 743 | 740 | 741 | 741 | 741 | 739 |
| Вільготнасць | 88 | 65 | 59 | 68 | 90 | 78 | 49 | 60 | 83 | 69 | 40 | 64 | 92 | 73 | 60 | 64 | 90 | 88 | 63 |
| Вецер м/сек | 4 Пн-У | 3 Пн-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 3 У | 4 Пд | 3 У | 2 Пн-У | 4 У | 5 У | 2 Пд-У | 1 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 2 Пд-У | 5 Пд-У | 4 Пд |

# Аб самым надзённым

## ЦІ ЎДАСЦА БЕЛАРУСАМ ВЫКАНАЦЬ ПАСТАЎЛЕНУЮ ЗАДАЧУ ПА МАДЭРНІЗАЦЫІ СВАЁЙ ЭКАНОМІКІ?

■ Аляксандр Цішкевіч

**Добра, што хоць у беларускім урадзе сталі адкрыта прызнаваць, што айчынная эканоміка адстае ад большасці высокаразвітых дзяржаў свету, дзе замежныя фірмы працуюць ужо ў пятым-шостым укладзе і апяраджваюць Беларусь на 2 тэхналагічных цыклы. Калі патлумачыць простаму чалавеку, гэта азначае, што на заходніх заводах і фабрыках поўнасцю замяняецца абсталяванне і пераходзяць на новыя тэхналогіі ўжо праз 5, максімум праз 7 гадоў дзейнасці.**

Асаблівасць нашай краіны ў тым, што і ў новым тысячагоддзі ў ёй мала што змянілася. Засталіся старыя камуністычныя назвы вуліц з яшчэ савецкіх часоў і пасутнасці тыя ж калгасы, хоць фармальна іх перайменавалі ў розныя таварыствы. А яшчэ нашы суайчыннікі, найперш кіруючыя работнікі, лёгка пагаджаюцца з амбіцыйнымі задачамі, якія агучваюць на Усебеларускіх народных сходах (падобных на ранейшыя з'езды КПБ/КПСС) , яны цяпер склікаюцца звычайна перад прэзідэнцкімі перавыбарамі.

Вось зараз усім прыходзіцца выконваць па загадзе зверху новую задачу: паскарэння мадэрнізацыі краіны. Добра, што хоць у беларускім урадзе сталі адкрыта прызнаваць, што айчынная эканоміка адстае ад большасці высокаразвітых дзяржаў свету, дзе замежныя фірмы працуюць ужо ў пятым-шостым укладзе і апяраджваюць Беларусь на 2 тэхналагічных цыклы. Калі патлумачыць простаму чалавеку, гэта азначае, што на заходніх заводах і фабрыках поўнасцю замяняецца абсталяванне і пераходзяць на новыя тэхналогіі ўжо праз 5, максімум праз 7 гадоў дзейнасці. А што ў нас?

Вось быццам нядрэнна завяршылі першы квартал года і забяспечылі рост ВУП у памеры 3,5 %. Аднак сітуацыя, скажам шчыра, вельмі хісткая, паколькі рост цэн за гэты перыяд склаў 5, 4 % пры гадавым прагнозе інфляцыі 12 %. Пры гэтым каторы месяц яшчэ з лета мінулага года зніжаюцца аб'ёмы прамысловай вытворчасці, падае беларускі экспарт, растуць складскія запасы (яны наблізіліся да 33 трлн. рублёў).

Аб гэтых трывожных тэндэнцыях гаварылася напрыканцы красавіка ў Мінску, дзе прайшла чарговая прадстаўнічая канферэнцыя дзелавых колаў Беларусі "Эканамічная трансфармацыя – стратэгія развіцця". На ёй чакалася выступленне вядомага экнаміста і намесніка главы прэзідэнцкай Адміністрацыі Андрэя Тура, але яго тэрмінова паслалі ў камандзіроўку ў чарнобыльскую зону. А было б цікава, як бы гэты ўплывовы ўпраўленец адрэагаваў на заклапочанасць многіх разумных дырэктараў, банкіраў і буйных бізнесменаў на пагаршэнне эканамічнай сітуацыі, бо ў нас з верагоднасцю 50 на 50 могуць напаткаць крызісныя з'явы, як у цяжкім 2011 годзе.

Справа ў тым, што на тэхпераўзбраенне беларускай індустрыі патрабуюцца велізарныя рэсурсы, а магчымасці Беларусі на гэта вельмі абмежаваныя. Пры гэтым, як адзначалася на эканамічнай канферэнцыі ў сталіцы, даўгі ўсіх суб'ектаў гаспадарання ўжо каля 400 трыльёнаў рублёў. А ўвесь ВУП Беларусі цяпер 575 трлн. рублёў і запазычанасць айчынных вытворцаў дасягнула 75 % і кожнае трэцяе беларускае прадпрыемства не мае ўласных абаротных сродкаў, знаходзіцца на мяжы выжывання.

З трывогай намеснік старшыні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Георгій Грыц канстатаваў, што ў Беларусі не вызначаны прыярытэты развіцця, няма адзінай стратэгіі і не скансентраваны рэсурсы для таго, каб дагнаць хоць бы па некаторых пазіцыях вядучыя краіны свету. Існуе суровы эканамічны закон: для таго, каб любое прадпрыемства магло развівацца, яно павінна мець рэнтабельнасць прадаж сваіх тавараў 25 %. Сёння 70 % айчынных заводаў маюць такую рэнтабельнасць, меней 5 % і ніколі не заробяць сродкі на сваю мадэрнізацыю.

Далей болей. Летась 73 % заробленай валюты ад экспарту беларусы мелі толькі ад трох пазіцый: калійныя ўгнаенні, нафтапрадукты і чорныя металы. Як нам канкурыраваць на заходніх рынках, дзе зарабіць на мадэрнізацыю эканомікі да 2020 года неабходных 90 млрд. долараў? Сітуацыя для беларусаў толькі ўскладнілася пасля ўступлення асноўнага гандлёвага партнёра Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Пакуль трывожна, што замежныя інвестары асцерагаюцца укладваць сродкі ў беларускую эканоміку, калі гучаць словы аб "бандыцкай прыватызацыі" ў магчымым холдынгу МАЗа з расійскім КамАЗам.

Як паказвае развіццё падзей, сёлета гадавая інфляцыя можа дасягнуць зноў мінулагодніх 20 %. Цяжка будзе заваліць рост складскіх запасаў, калі ў пачатку года сёлета беларускі экспарт "прасеў" і знізіўся на 17,7 % і мы недабралі 1,5 млрд. долараў ад продажу сваіх тавараў. Дзе б хто з нас не працаваў, для ўсіх існуе жалезны закон суадносін "цана-якасць" пры зніжэнні затрат на вытворчасць прадукцыі. Аднымі заклікамі шмат напружана працаваць як у ваенны час далёка не прасунешся, існуючыя праблемы не вырашыш, а рабіць гэта неабходна, каб нармальна жылося беларусам.

## Дзень за днём

**Да 2015 года тарыфы на электраэнергію для насельніцтва Беларусі "Белэнерга" давядзе да ўзроўню сабекошту. У Беларусі з 1-га ліпеня пачне працу новы Дзяржаўны камітэт судовых экспертыз. Змяніўся парадак рэгістрацыі аўтамабіляў, увезеных да нас з Расіі і Казахстана. У двух гігантаў індустрыі МАЗа і БелАЗа ўзніклі праблемы са збытам тэхнікі на асноўным расійскім рынку. Даследванні паказалі, што рэальная зарплата беларусаў зараз 451 долар, яшчэ больш (у сярэднім 519 $) маюць мінчане, а найменш - заробкі ў Гродне (363 $). У беларускай сталіцы актывізавалі працу па стварэнні патрэбнай інфраструктуры для правядзення чэмпіянату свету 2014 года па хакеі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Старшыня Еўракамісіі Жозе Баррозу заявіў, што меры жорсткай эканоміі сродкаў у ЕС вычарпаны, далей такая палітыка можа спыніць эканамічны рост на кантыненце.

**Францыя.** Еўрапейскі суд па правах чалавека ў Страсбургу прызнаў незаконным і палітычна матываваным арышт былога прэм'ер-міністра Украіны Юліі Цімашэнка.

**Бангладэш.** Улады арыштавалі ўладальніка будынка ў сталіцы і трох дырэктараў швейных фабрык, якія абрушыліся ў сталіцы Дакке і загінула там каля паўтысячы чалавек.

**Польшча.** Прэм'ер-міністр Д. Туск заявіў, што з мэтай стратэгічнай бяспекі палякі ніколі не прададуць Расіі свае газаправоды, нафтаперапрацоўчыя і азотныя заводы як і іншыя дзяржавы ЕС.

**Кітай.** Рост прамысловай вытворчасці эканомікі краіны ў красавіку спыніўся з-за падзення попыту на кітайскія тавары ў свеце, летась ВУП аказаўся самы слабы за 13 год.

**Італія.** Кіраўніку левацэнтрысцкай Дэмакратычнай партыі Энрыке Лета ўдалося сфарміраваць разам з правымі новы кааліцыйны ўрад краіны на фоне крызісу эканомікі.

**Украіна.** Прэм'ер-міністр М. Азараў заявіў, што сёлета ўкраінцы ў 8 разоў знізілі закупкі газу ў Расіі, бо яго кошт больш 400 $ значны вышэйшы, чым для іншых крaін Еўропы.

**Казахстан.** МВФ пацвердзіў, што да канца 2013 году краіну, 11-ю па ліку з былых дзяржаў СССР, прымуць у СГА ўслед за Таджыкістанам, перспектывы РБ – аддаленыя.

**Венесуэла.** Пасля абрання Н. Мадуры прэзідэнтам у краіне пачасціліся перабоі з асобнымі прадуктамі харчавання, адключэнні электрычнасці, расце знешні доўг, слабее нацвалюта.

**Балівія.** Блізкі сябар памерлага Чавеса прэзідэнт Эва Маралес незаконна "націсную" на Канстытуцыйны суд краіны, каб той дазволіў яму перавыбірацца на пасаду на 3-ці тэрмін.

**Расія.** Ва ўсіх медустановах РФ пачаліся праверкі пасля начнога пажару ў псіхіятрычнай бальніцы пад Масквой і гібелі ў ёй у пасёлку Раменскім 38 чалавек, многіх у сне.

**Харватыя.** Вучоныя Загрэбскага ўніверсітэта вывелі пчол, якія здольныя з адлегласці 5 км выяўляць участкі з мінамі і боеприпасамі, якіх тут шмат пасля грамадзянскай вайны.

**Чэхія.** У цэнтры спакойнай Прагі паблізу Нацыянальнага тэатра ў будынку школы кіно і тэлебачання з-за ўцечкі газу прагрымеў моцны выбух, пацярпела больш 50 чалавек.

**Грэцыя.** З мэтай эканоміі сродкаў дзяржбюджэту ў пачатку лета звольняць яшчэ 2 тысячы дзяржслужачых, да канца 2014 года працу страцяць 15 тысяч чыноўнікаў з дзяржаўных структур.

**Расія.** Па наводцы трое злачынцаў ноччу залезлі і абрабавалі загарадны сядзібны дом сусветна знакамітай балерыны Анастасіі Валачковай, забралі яе брыльянты і дарагія рэчы.

## Цытата нумара

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ, кандыдат навук, рэдактар аддзела сацыяльнай палітыкі штотыднёвіка "Беларусы і рынак":**

" Калісьці ставілася задача абагнаць іншыя краіны па надоях малака. Але не атрымоўвалася. Вельмі марудна ўсе прырастала. Напрыклад, у 1940 годзе сярэдні надой склаў 1.185 кг на карову, у 1970 годзе (па ўсяму СССР) – 2.105кг, у 1985 годзе – 2.470 кг (БССР). Самы высокі надой за ўсю савецкую беларускую калгасную гісторыю склаў 3.220 кг на карову. Як у Маякоўскага: у грам дабычы – год працы. Вельмі цяжкай і знясільваючай працы. Людзі прыходзілі на фермы маладымі, сталелі, старэлі, хварэлі, памiралі, а надоі фактычна не раслі. Быццам бы час спыніўся…

Праўда, у апошні час прадуктыўнасць галіны стала павышацца, загаварылі аб пачатку сапраўднага бума, аб прыхолзе "Вялікага малака". Верагодна, таму што ў 2012 годзе сярэдні надой ад каровы склаў 4.712 кг, што на 190 кг болей узроўню 2011 года. Можна меркаваць, што праз 2-3 наступныя гады сярэдні надой павялічыцца да 5.000 кг малака ад каровы.

Аднак у любым выпадку размова ідзе аб узроўні, які ў еўрапейскіх краінах дасягнуты яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя."

## Кіроўца, прадавец і трактарыст узначальваюць рэйтынг запатрабаваных прафесій у Віцебскай вобласці



■ Алена Ціханава - БелТА

**Устойлівым попытам на рынку працы Віцебскай вобласці карыстаюцца вадзіцелі аўтамабіля, прадаўцы, трактарысты і электразваршчыкі, паведамілі карэспандэнту БелТА ў камітэце па працы занятасці і сацыяльнай абароне аблвыканкама.**

На аднаго беспрацоўнага, які стаіць на ўліку ў цэнтры занятасці, прыходзіцца амаль 2 вакансіі. Прычым 85% вольных месцаў - гэта рабочыя спецыяльнасці. Прадпрыемствам рэгіёну патрабуюцца швачкі, зборшчыкі абутку, муляры, цесляры, кандуктары і кухары. Сярод спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй па-за канкурэнцыяй інжынеры і лекары.

Спецыялісты цэнтра занятасці не проста вядуць ўлік вакансій. Яны актыўна дапамагаюць грамадзянам, прафесійныя навыкі якіх апынуліся не запатрабаванымі, знайсці новае працоўнае месца. Усяго з пачатку года праз цэнтр занятасці працаўладкавана 9 тысяч 349 чалавек. Субсідыі для арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці выдзелены амаль 200 грамадзянам. Навучанне і перанавучанне прайшлі больш за 900 чалавек. На аплатных грамадскіх работах было задзейнічана каля 2 тысяч 500 беспрацоўных.

У цяперашні час афіцыйны ўзровень беспрацоўя ў рэгіёне складае 0,8% ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва. На ўліку ў цэнтры занятасці стаіць 3 тысячы 531 чалавек. Як правіла, гэта асобы з нізкай прафесійнай падрыхтоўкай, якія могуць быць падсобнымі рабочымі, прыбіральшчыкамі і грузчыкамі. Што датычыцца спецыялістаў, то на рынку працы Віцебскай вобласці адзначаецца лішак бухгалтараў, эканамістаў, машыністаў кацельні і паляводаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Расійскі пасол А. Сурыкаў заявіў, што ўрад РФ поўнасцю перакрыў для Беларусі летняшнія сумніўныя схемы растваральна-разбаўляльняга бізнесу нафтапрадуктаў.

**Светлагорск.** На тэрыторыі раёна спецыялісты РУП "Белгеалогія" знайшлі яшчэ адно сховішча нафты глыбока пад зямлёй, яе запасы ацэньваюцца ў памеры 150 тысяч тон.

**Мінск.** На сваім сайце КДБ Беларусі паведаміў аб арышце за быццам атрыманне яшчэ летась хабару 44-гадовага намесніка міністра спорту і турызму нашай краіны Сяргея Нерада.

**Салігорск.** Работнікаў Клайпедскага порту пададавала, што партнёр "Беларуськалій" не толькі набыў 30 % іх акцый, але і ў 2 разы павялічыць аб'ёмы перавалкі адсюль грузаў.

**Баранавічы.** Па звестках дасведчанай газеты "Коммерсантъ", авіябаза Мінабароны Расіі для дыслакацыі сваіх баявых самалётаў Су-30 выбрала аэрадром паблізу гэтага горада.

**Мінск.** Намеснік гендырэктара холдынга "Гарызонт" Г. Азараў паведаміў, што за год яго заводы вырабілі больш 530 тысяч тэлевізараў, але з іх 80 % - пад брэндам Toshiba і Sharp.

**Брэст.** На год працы наперад выраслі складскія запасы на электрамеханічным заводзе, як заявіў глава вобласці К. Сумар, сітуацыя пагрозлівая і на іншых прадпрыемствах рэгіёна.

**Гродна.** На пункце пропуску "Брузгі" беларускія мытнікі прапусцілі назад на радзіму пасля дагляду аўтобуса 3 гараджан, 15 чалавек з купленым таварам вярнуліся ў Польшчу.

**Мінск.** У нас армія, як прызнаўся міністр абароны РБ Ю. Жадобін, ужо пераўтвараецца ў нейкі дзіцячы сад, не можа прызваць 23 тысячы годных салдат, да 10 тысяч – "ухілісты".

**Жыткавічы.** Следчы камітэт пачаў праверку дзейнасці экс-кіраўніка раёна М. Какоры, яго прэзідэнт Беларусі звольніў за грубыя злоўжыванні сваім службовым становішчам.

Барысаў. Міліцыя затрымала намесніка старшыні райвыканкама па падазрэнні ў атрыманні хабару 13 тысяч $ за вырашэнне пытання аб рэканструкцыі будынка для фірмы.

**Мінск.** Праверка Мінэнерга Беларусі пацвердзіла, што з 2001 года штат яго ўпраўленцаў вырас больш, чым у 2 разы, з "Белтопгазам" дасягнуў 395 чалавек, галіна ў яўным крызісе.

**Гродна.** У абласной бальніцы адкрылі аддзяленне трансплантацыі органаў і тканей, для яго набылі за 1,5 млн. еўра навейшы электронны тамограф фірмы "Philips".

**Быхаў.** Адзін з двух аварыйных помнікаў Леніна ў райцэнтры ля кансервавасушыльнага камбіната дэмантавалі, бо ён порціў выгляд сталіцы Дня беларускага пісьменства.

**Старыя Дарогі.** Уся рыба на буйным водасховішчы Ляўкі на граніцы з Магілёўскай вобласцю загінула з-за недахопу кіслароду, яе прыйшлося сабраць і знішчыць.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці на ААТ "Нафтан" і на ТАА "Інтэрсервіс" пацягнула падзенне валавага рэгіянальнага прадукту Віцебшчыны да леташніх 96,8 %.

**Орша**. Раённая пракуратура ў рамках праводзімай рэарганізацыі аб'ядналася з гарадской, як і ў Полацку, Віцебску ў адну структуру, па Беларусі скарацілі каля 40 кіруючых пасад.

**Віцебск.** З дапамогай устаноўленай летась лініі 12-каляровага друку тканін на ААТ "Віцебскія дываны" ў 1-м квартале адгрузілі на экспарт прадукцыі на 11 мільёнаў долараў.

**Полацк.** На аднаўленне разбуранай паводкай дамбы будучай Полацкай ГЭС спатрэбіцца мінімум два з паловай месяцы, работы на ёй пачаліся, калі вада прыкметна спала.

**Лёзна.** Мясцовы жыхар знайшоў на тэрыторыі адной з арганізацый райцэнтра больш 100 цэлых і разбітых градусьнікаў, спецыялісты Міністэрства надзвычайных сітуацый абралі 23 грамы вельмі шкоднай ртуці.

**Наваполацк.** На прайшоўшай ярмарцы вакансій з 410 прапаноў працаўладкавання 129 жыхароў горада знайшлі сабе работу, 38 выказалі жаданне навучыцца новым прафесіям.

**Глыбокае.** Яшчэ 60 шчаслівчыкаў атрымалі ключы ад новых кватэр у жылым доме мікраёна райцэнтра Беразвечча, сваёй чаргі на абзавядзенне жаллём тут чакаюць 1600 чалавек.

**Бешанковічы.** За здабычу незаконным спосабам маладога ласся суд пакараў браканьера, жыхара гэтага раёна 1 годам турмы і штрафам у суме 9,5 мільёна рублёў за шкоду прыродзе.

**Мёры.** Пасля пераводу каналізацыйна-насоснай станцыі райцэнтра на аўтаматычны рэжым 8 яе слесараў не звольнілі, а перавялі на ўчастак нарыхтовак дроў, таму што іх не хапае.

**Гарадок.** Па прыгаворы суда 48-гадовы рабочы, жыхар раёна атрымаў 14 гадоў турмы ўзмоцненага рэжыму за згвалтаванне непаўнагетніх дочак сваёй сужыцельніцы.

**Глыбокае.** Базісны гадавальнік мясцовага вопытнага лясгаса пацвердзіў ганаровае званне "Лясны гадавальнік высокай культуры", два гады запар гэты гадавальнік прызнаюць лепшым у краіне.

**Браслаў.** Пасля выпіўкі на пахаванні ў вёсцы Дворышча адзінокі 55-гадовы жывёлавод калгаса ноччу закурыў і спаліў свой дом, але сам застаўся жывы да прыезду пажарных.

**Чашнікі.** У цэнтры аграгарадка Іванск побач з помнікам тым, хто загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны, з'явіўся новы мемарыяльны знак у памяць спаленых тут дашчэнт двух вёсак.

**Віцебск.** Прадстаўнікі так званай "расійскай грамадскасці" выступілі супраць устаноўкі на Дзень горада, які адбудзецца 26 чэрвеня, помніка "літоўскаму князю і ворагу праваслаўя" Альгерду.

**Паставы**. Менеей чым за год да зімовай Алімпіяды ў Сочы ўраджэнец горада Андрыян Цыбульскі стаў галоўным трэнерам зборнай Беларусі па біятлоне, дагэтуль ён трэніраваў жаночую зборную.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Беларусі змяншаецца колькасць такіх відаў птушак, як лугавы канёк, сачавіца і балотная чарацянка

**У Беларусі змяншаецца колькасць такіх відаў птушак, як лугавы канёк, сачавіца і балотная чарацянка, але павялічваецца колькасць кнігавак. Пра гэта сведчаць даныя, атрыманыя падчас рэалізацыі ў Беларусі міжнароднай праграмы «Маніторынг звычайных відаў птушак».**

Як паведамляе грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны», усяго на 45 маніторынгавых пляцоўках за апошнія шэсць гадоў было выяўлена 146 відаў птушак, але колькасць большасці з іх «вагаецца без яўных тэндэнцый».

Сёлета праграма ўліку птушак будзе рэалізоўвацца ў Беларусі ўжо сёмы раз. Галоўная мэта даследавання — высветліць, якім чынам змяняюцца беларускія ландшафты і як гэтыя змяненні ўплываюць на відавы склад і колькасць насяляючых іх птушак. Пры гэтым, як зазначаюць спецыялісты, птушкі — індыкатар, які найбольш дакладна адлюстроўвае агульныя кірункі змяненняў у ландшафтах і ўскосна сведчаць пра стан усіх астатніх элементаў экасістэмы.

Першапачаткова маніторынгавыя пляцоўкі было вырашана закладваць у Беларусі на адкрытых сельгасугоддзях, каб сачыць за птушкамі аграландшафтаў. За апошнія 30 гадоў з-за інтэнсіўнай сельскай гаспадаркі гэта група птушак знізіла сваю колькасць у еўрапейскіх краінах амаль удвая.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*




# Учынак бессардэчнасці да братоў нашых меншых

■ Яўген Самсонаў

**З просьбай напісаць гэты артыкул да мяне звярнулася адна знаёмая, назавем яе Валянцінай, якая стала сведкам непрыстойнай падзеі.**

Корпаючыся на градках ля свайго дома, заўважыла, як да суседняга прыватнага смеццевага кантэйнера, што месціцца ў Глыбокім па вуліцы Ламаносава, 25, пад'ехала цёмна-зялёная легкавая машына з нумарам 28-.. ВХ-2.

– *Зноў смецце нахабнікі прывезлі і хочуць выкінуць,*– падумала спадарыня Валянціна.

Але двое маладых хлопцаў, вінавата азіраючыся па баках, выкінулі з машыны пяцярых маленькіх кацянят.

– *Што Вы робіце, нягоднікі,*– залямантавала ўзбуджаная такім учынкам спадарыня Валянціна,– *няўжо ў Вас няма ні сэрца, ні сумлення! Як Вы можаце іх, маленькіх, безабаронных выкідваць на пакуту і пагібель! Вы ж такія жывыя істоты як і тыя коцікі. Божанька ўсё бачыць, і не выключана, што гэты вар'яцкі ўчынак некалі ды адгукнецца на Вашым лёсе!*

Але маладыя хлопцы, зарагатаўшы, бы тыя жарабцы, хуценька скокнулі ў машыну і паехалі.

Супакоіўшы ўсхваляваную жанчыну, аўтар гэтых радкоў патэлефанаваў у ДАІ, каб высветліць прозвішчы "герояў", але там сказалі, што на гэта патрэбен адмысловы запыт. Ды і сапраўды, згодна Закона, няхай гэтай справай займаюцца кампетэнтныя арганізацыі.

У прыватнай размове начальнік міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Аляксей Протас патлумачыў, што дзеянні хлопцаў падпадаюць пад адміністрацыйны артыкул "Жорсткае абыходжанне з жывёламі" і па гэтым артыкуле некаторыя грамадзяне ўжо панеслі пакаранне, у прыватнасці за здзек над птушкай.



# Злоўленыя карасі сапраўды сталіся залатымі

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Прырода шчодра надарыла нашу краіну: шмат лясоў, азёр, рэк. Месцы ў Беларусі сапраўды вельмі прыгожыя, і гэта прыцягвае ў лясы і на азёры грамадзян, як для актыўнага адпачынку, так і проста пабыць на свежым паветры. Да актыўнага адпачынку смела можна аднесці рыбалку і паляванне. Чым цяплей становіцца надвор'е, тым актыўней становіцца рыба і, вядома, рыбакі, асабліва ў выходныя дні. Практычна на кожным вадаёме сустрэнеш чалавека з вудай ці спінінгам, уловы цешаць, але, на жаль, засмучае браканьерства. Яшчэ вельмі часта можна сустрэць і чалавека з сеткай.

Штотыдзень супрацоўнікі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па краіне затрымоўваюць дзясяткі браканьераў, канфіскоўваюць сотні кілаграмаў незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл, дзясяткі адзінак зброі, не выключэнне з'яўляецца і работа супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі.

У ноч з 8 на 9 траўня 2013 года супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі сумесна з супрацоўнікамі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы, праводзілі рэйд па спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства на тэрыторыі Пастаўскага раёна. Каля 2 гадзін ночы рэйдавая група прыбыла на возера Задзерскае, размешчанае наўпрост у цэнтры г. Паставы. Больш гадзіны вялі ўтоенае назіранне за вадаёмам і ўжо здавалася, што ноч пройдзе спакойна, але раптам у цемры з'явіўся чалавек, які, хаваючыся за дрэвамі, падышоў да лодкі, якая ляжала на беразе, спусціў яе на ваду і павольна паплыў уздоўж берага. Амаль гадзіну чалавек плаваў па возеры, а калі прычаліў да берага, інспектары і работнікі міліцыі затрымалі мужчыну і не дарма. З сабою ў затрымананага знаходзіліся лесачныя сеткі, 9 шчупакоў, 4 плоткі і акунь, якіх ён злавіў сеткамі. Урон склаў больш за 3 млн. рублёў. Зараз мясцовага жыхара, грамадзяніна П. чакае раённы суд і штраф.

12 траўня, каля 22 гадзін супрацоўнікамі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы быў спынены аўтамабіль Фольксваген пад кіраваннем жыхара г. Глыбокае грамадзяніна Н., у багажніку якога знаходзіліся мяшкі з рыбалоўнымі сеткамі і рыбай. Інспектары міжрайінспекцыі, якія прыбылі, хутка ўсталявалі, дзе была здабыта рыба, 22 асобіны карася залатога, 1 асобіна карася срэбнага, ды і затрыманы чыстасардэчна прызнаў сваю віну, што змякчае адказнасць. Аднак, прычынены прыродзе ўрон у памеры больш за 13 млн. рублёў прыйдзецца пакрыць, так што незаконная рыбалка і злоўленыя карасі сапраўды залатыя. Вырашаецца пытанне пра ўзбуджэнне крымінальнай справы.

Пра ўсе вядомыя і здзейсненыя факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8 (02156) - 2-86-70 – кругласутачна, маб.» 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.

# ЕС выдзеліць Беларусі 12 млн. еўра на праект тэхнічнай дапамогі «Зялёная эканоміка»

**Еўрапейскі саюз выдзеліць Беларусі 12 млн. еўра на рэалізацыю праекта міжнароднай тэхнічнай дапамогі «Зялёная эканоміка ў Беларусі», паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў аддзеле інфармацыі і сувязей з грамадскасцю Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

Адпаведнае пагадненне Беларусь і ЕС падпішуць 17 мая.

З беларускага боку подпіс пад дакументам паставіць міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Цалко, з боку Еўрасаюза - кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора.

Як расказалі ў Мінпрыроды, фінансавыя сродкі накіруюць на ўдасканаленне ў Беларусі асноўных механізмаў зялёнай эканомікі, у прыватнасці, на правядзенне мерапрыемстваў па ўдасканаленні інстытуцыянальнай і заканадаўчай базы. Важнае значэнне надаецца абмену ведамі і вопытам у сферы зялёнай эканомікі, дзейнасці па больш актыўным выкананні малых зялёных ініцыятыў і міні-праектаў.

Згодна з праектам дакумента, у будучым на тэрыторыі Беларусі будзе рэалізаваны пілотны праект па будаўніцтве і ўводзе ў дзеянне ветравой устаноўкі з мэтай вызначэння эфектыўнасці выкарыстання ў рэспубліцы ветравой энергіі і дэманстрацыі яе магчымасцей.

*БЕЛТА.*



# Рыбгасам Беларусі ў 2013 годзе кампенсуюць частку працэнтаў за карыстанне банкаўскімі крэдытамі

**Рыбгасам Беларусі кампенсуюць частку працэнтаў за карыстанне крэдытамі. Такое рашэнне змешчана ў пастанове Савета Міністраў нумар 353 ад 8 мая 2013 года, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага ўрада.**

Згодна з дакументам, у 2013 годзе са сродкаў рэспубліканскага бюджэту рыбгасам будзе кампенсавана частка выплачаных у 2012-2013 гадах працэнтаў за карыстанне банкаўскімі крэдытамі. Крэдыты выдаваліся ААТ «Белаграпрамбанк» і ААТ «ААБ «Беларусбанк» у 2011-2012 гадах у рамках выканання дзяржпраграмы развіцця рыбагаспадарчай дзейнасці на 2011-2015 гады на набыццё камбікорму, а таксама будаўніцтва рыбаводных аб'ектаў. Кампенсацыя будзе праводзіцца ў памеры 50 працэнтаў стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка, устаноўленай на дату пакрыцця працэнтаў.

Атрыманыя сродкі ў бягучым годзе будуць накіраваны арганізацыямі на набыццё кармоў і (або) пагашэнне запазычанасці па крэдытах, выдадзеных для аплаты набываемых кармоў.

Умовай аказання дзяржаўнай падтрымкі з'яўляецца выкананне рыбаводнымі арганізацыямі ў 2013 годзе паказчыкаў па тэмпах росту прадукцыйнасці працы і рэнтабельнасці продажаў у адпаведнасці з бізнес-планамі іх развіцця на гэты год.

Дзяржкаммаёмасці сумесна з Мінсельгасхарчам даручана ў першым квартале 2014 года ўнесці праект пастановы Савета Міністраў Беларусі аб павелічэнні долі рэспублікі ў статутных фондах адкрытых акцыянерных таварыстваў з ліку рыбаводных арганізацый на суму кампенсацыі часткі працэнтаў за карыстанне банкаўскімі крэдытамі і аб перадачы выпушчаных рыбгасамі акцый гэтых ААТ ва ўласнасць Беларусі.

*БелТА.*



9 траўня ў Глыбокім адбыліся святочныя мерапрыемствы з нагоды Дня Перамогі. На здымку: урачыстае ўскладанне вянкоў да помніка савецкім салдатам, якія загінулі за вызваленне горада ад фашысцкай навалы. *Фота Яўгена Самсонава.*

# Чысты прыбытак арганізацый Беларусі ў першым квартале 2013 года знізіўся амаль на 36%

**Чысты прыбытак арганізацый Беларусі ў першым квартале гэтага года знізіўся амаль на 35,8% і склаў 12,2 трлн. рублёў, паведамілі БелаПАН у Нацыянальным статыстычным камітэце.**

За першы квартал 2013 года выручка ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг арганізацый краіны ў бягучых цэнах склала 298,4 трлн. рублёў, ці на 9,6% больш, чым за першы квартал 2012 года. Сабекошт рэалізаванай прадукцыі, тавараў, работ, паслуг вырас на 10,9% і дасягнуў 238,2 трлн. рублёў. Прыбытак знізіўся на 25,6% да 20,3 трлн. рублёў. Сума чыстых страт узрасла на 75,1% і склала 2,5 трлн. рублёў.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Пастаўскі райвыканкам і «Еўраопт» не дамовіліся наконт месца пад краму

Калі ў Паставах адкрыецца "Еўраопт"? Гэта пытанне цікавіць многіх. Задаюць яго, звяртаючыся ў рэдакцыю, і чытачы "Пастаўскага краю". Па нашай просьбе сітуацыю тлумачыць намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Рыгоравіч Коваль, які курыруе гандаль у раёне:

— Прадстаўнікі "Еўраопта" звярнуліся ў Пастаўскі райвыканкам з просьбай размясціць у горадзе свой магазін. Мы не адмовілі ў гэтым. Прапанавалі адвесці зямельны ўчастак пры ўездзе ў пяты гарадок (на другі бок дарогі, насупраць устаноўленага самалёта) для ўзвядзення будынка пад магазін. Месца выдатнае — вароты горада. Побач два мікрараёны: вуліца Юбілейная і пяты гарадок, траса Мінск-Браслаў. Усе камунікацыі таксама блізка. Зручны пад'езд, ёсць дзе разгарнуцца з абуладкаваннем стаянкі для транспарту. Укладвайце сродкі і будуйцеся на карысць сабе і гораду.

Але еўраоптаўцаў прываблівае іншы, менш затратны для іх варыянт. Яны жадалі б размясціць сваю гандлёвую сетку на "Беліце", на незанятых заводскіх плошчах. Сапраўды, свабодныя плошчы там зараз ёсць. Затое няма пад'язных шляхоў і пляцовак, дзе можна было б разгружацца фурам. Праблема і з парковачнымі месцамі. Ужо цяпер перад белітаўскім рынкам у кірмашовыя дні немагчыма прыпаркавацца ўсяму транспарту, узнікаюць замінкі з уездам і выездам. А калі б тут адкрыўся "Еўраопт", то колькасць транспарту павялічылася б у разы, прыязджала б сотня, а то і дзве аўтамашын. Стаянкі для такой іх колькасці няма, як і няма месца абуладкаваць ля "Беліта" другую. Па гэтай прычыне райвыканкам палічыў немэтазгодным размяшчэнне тут "Еўраопта". Дарэчы, мы прапанавалі ім яшчэ адзін варыянт будаўніцтва новага магазіна — у мікрараёне шостага гарадка.

Такім чынам, пастаўчане пакуль будуць абыходзіцца без "Еўраопта". Затое ў райвыканкам з цікавай прапановай звярнулася таварыства з абмежаванай адказнасцю "НавучПраектБуд" — партнёр вядомай кампаніі "Norfa". Яно зацікаўлена ў інвесціраванні грашовых сродкаў у будаўніцтва магазінаў харчовай групы тавараў (ад міні– да гіпермаркета) у Паставах і Варапаеве, якія пасля завяршэння будаўніцтва будуць перададзеныя для эксплуатацыі апаратару "Norfa". Такую прапанову раённыя ўлады, вядома ж, падтрымалі. Зараз паміж бакамі вядуцца перамовы.

***Крыніца: Пастаўскі край***




# У Лучаі пройдзе фэст з нагоды 75-й гадавіны кананізацыі Андрэя Баболі

**75-ю гадавіну кананізацыі святога Андрэя Баболі, мучаніка, адзначае сёлета Каталіцкі Касцёл. Андрэй Баболя — святар, палымяны прапаведнік, «лавец душаў», які евангелізаваў на Палессі.**

Ён скончыў жыццё ў страшэнных муках, але не адрокся ад сваёй ідэі еднасці хрысціян. За свае перакананні яго забілі ў Янаве Палескім (зараз горад Іванава Брэсцкай вобласці).




Парафія св. Юды Тадэвуша ў Лучаі (Пастаўскі раён) традыцыйна з году ў год ладзіць фэст у гонар святога мучаніка Андрэя Баболі. У лучайскім касцёле ёсць таксама бочны алтар з абразом святога.

Сёлета свята плануецца правесці 18 мая. Фэст абяцае адбыцца з размахам і нацыянальным каларытам. Запрошаны да ўдзелу госці з Шаркоўшчыны - артысты РДК, Дом рамёстваў, клуб нацыянальнай кухні «Груца», літаратурна-музычнае аб'яднанне «Світанак», клуб «Жаночы час».

**Да ўдзелу запрашаюцца ўсе жадаючыя. Мерапрыемства распачнецца 18 мая ў 16.30. Мы будзем рады бачыць Вас на нашых святах!**

*кс. Мікалай Ліпскі.*

# Лукашэнка аб'явіў аб пачатку масавага будаўніцтва арэнднага жылля ў Беларусі

**Беларусь пачынае масавае будаўніцтва арэнднага жылля. Пра гэта, як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, Аляксандр Лукашэнка заявіў 7 мая ў Мінску на цырымоніі пачатку будаўніцтва жылога комплексу для навуковай і творчай інтэлігенцыі «Магістр».**

Кіраўнік дзяржавы зазначыў, што на нядаўніх сустрэчах са студэнцкай моладдзю і артыстамі Купалаўскага тэатра яго прасілі дапамагчы ў вырашэнні самай надзённай праблемы — жыллёвай. «Мы не сталі адкладваць вырашэнне гэтага пытання ў доўгую скрыню і ўжо сёння пераходзім ад слоў да справы — пачынаем узвядзенне жылога квартала «Магістр» для навуковай і творчай інтэлігенцыі», — сказаў прэзідэнт.

Лукашэнка падкрэсліў, што гэта падзея знамянуе новы падыход да рэалізацыі жыллёвай палітыкі ў Беларусі. «Мы пачынаем ажыццяўленне перспектыўнага нацыянальнага праекта стварэння дзяржаўнага арэнднага жылля, — заявіў ён. — Гэты быццам бы будзённы прыезд прэзідэнта на будаўнічую пляцоўку з'яўляецца гістарычнай падзеяй, таму што адсюль мы пачынаем глабальнае будаўніцтва арэнднага жылля — гэтай новай формы, якая ў нашай дзяржаве была не развіта, у той час як у іншых краінах даўно будуюць такое жыллё. Гэта сучасны еўрапейскі шлях і дастойная альтэрнатыва прыватнаму жыллёваму рынку з яго загранічнымі цэнамі».

Пры гэтым прэзідэнт заявіў, што кошт найму арэнднага жылля павінен быць не ніжэйшым за 50% ад рыначнага: «Гэта прынцыпова для ўсіх. Арэнднае жыллё не можа быць таннейшым за 50% рыначнага кошту, але і даражэйшым мы не будзем рабіць». Разам з тым Лукашэнка падкрэсліў, што для пэўных катэгорый грамадзян будзе працягнута будаўніцтва сацыяльнага жылля: «Гэта, напэўна, ваенныя людзі і, самае галоўнае, — шматдзетныя сем'і. Мы ім будзем сур'ёзна дапамагаць, таму што гэта наш галоўны прыярытэт. У астатнім будзем недзе крыху дапамагаць, але пераходзім да арэнднага жылля, як жыве ўвесь свет».

Прэзідэнт паведаміў, што ў цяперашняй пяцігодцы ў краіне плануецца пабудаваць не менш як 1 млн. кв. м арэнднага жылля. Цэны на яго будуць вельмі даступнымі. «Напрыклад, плата за дзяржаўнае арэнднае жыллё ў дамах уздоўж кальцавой аўтадарогі, дзе ўзводзіцца гэты квартал, будзе напалову ніжэйшай, чым за прыватную здымную кватэру», — паабяцаў ён.

«Але пры гэтым мы не збіраемся раскідвацца квадратнымі метрамі, пабудаванымі за кошт бюджэту. Кватэры ў арэндных дамах, як раней службовае жыллё, атрымаюць патрэбныя краіне спецыялісты па заяўках арганізацый. Я кажу пра тое жыллё, якое будзе пабудавана за кошт дзяржаўных сродкаў, — падкрэсліў прэзідэнт. — Пры гэтым усе гасразліковыя, і дзяржаўныя, і прыватныя прадпрыемствы, абавязаныя будаваць арэнднае жыллё. І ім патрэбна давесці заданне».

Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька паведаміў прэзідэнту аб планах па будаўніцтве жылога комплексу «Магістр». У яго стварэнне будзе ўкладзена больш як 500 млрд. рублёў. Апрача таго, Парк высокіх тэхналогій, які размяшчаецца побач, таксама выказаў жаданне прафінансаваць будаўніцтва прыкладна 300—500 кватэр, якія будуць выдзяляцца ў арэнду супрацоўнікам кампаній-рэзідэнтаў ПВТ.

Згодна з канцэпцыяй, комплекс будзе ўключаць дзевяць жылых дамоў арэнднага тыпу на 2,2 тыс. кватэр, аб'екты сацыяльна-культурнага прызначэння, блок гандлёвага і бытавога абслугоўвання, аўтастаянкі.

Арэнднае жыллё будзе давацца ў парадку чарговасці маючым патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў вучоным, прафесарска-выкладчыцкаму складу ВНУ, дзеячам культуры на перыяд іх працы на адпаведных штатных пасадах.



Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў, каб усе работы праводзіліся ў сціслыя тэрміны і гэты жылы квартал быў поўнасцю ўзведзены і добраўпарадкаваны да 3 ліпеня 2015 года.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Спецыялісты рэкамендуюць беларусам перад выездам за мяжу даведацца пра неабходнасць вакцынацыі ад небяспечных інфекцый

**Перад выездам у экзатычныя краіны грамадзянам рэкамендуецца даведацца пра неабходнасць вакцынацыі ад небяспечных інфекцый. Аб гэтым паведаміла загадчыца аддзялення асабліва небяспечных інфекцый Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя (РЦГЭіГЗ) Анастасія Ляшкевіч 8 мая на прэс-канферэнцыі ў Мінску. Паводле яе слоў, такую інфармацыю можна атрымаць на сайтах РЦГЭіГЗ і Міністэрства аховы здароўя Беларусі.**

Як адзначыла спецыяліст, у 20 краінах Паўднёвай і Цэнтральнай Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі забаронены ўезд без міжнароднага сертыфікату аб вакцынацыі супраць жоўтай ліхаманкі. У шэрагу краін такая вакцынацыя хоць і не абавязковая, але рэкамендуецца. У Мінску такую прышчэпку можна зрабіць у 19-й цэнтральнай раённай паліклініцы. Сертыфікат аб вакцынацыі супраць жоўтай ліхаманкі даецца на 10 гадоў, але пачынае дзейнічаць толькі праз 10 дзён пасля прышчэпкі.

Таксама перад выездам за мяжу спецыялісты рэкамендуюць зрабіць прышчэпкі супраць віруснага гепатыту А і віруснага гепатыту В.

Каб не заразіцца шаленствам, неабходна пазбягаць кантактаў з жывёламі, але калі такі кантакт адбыўся, трэба абавязкова звярнуцца да медыкаў, пачаць вакцынацыю і абавязкова закончыць яе, бо курс прышчэпак супраць шаленства доўжыцца каля месяца.

Як адзначыла Ляшкевіч, сітуацыя з распаўсюджаннем кішачных інфекцый у летні перыяд можа абвастрыцца ў любой краіне, у сувязі з гэтым на адпачынку трэба прымаць меры прафілактыкі. Харчавацца турыстам лепш у спецыяльных абазначаных месцах і не купляць ежу ў вулічных гандляроў. Морапрадукты павінны быць добра прыгатаваныя, з асцярожнасцю трэба ўжываць скорапсавальныя прадукты. Таксама не рэкамендуецца купляць лёд або напоі з лёдам, бо для яго замарожвання можа выкарыстоўвацца няякасная вада. Піць можна толькі гатаваную або бутыліраваную ваду. Не варта забываць і пра гігіену рук, для чаго можна выкарыстоўваць кішэнныя сродкі-антысептыкі. Каб абараніцца ад паразітаў, загараць на пляжы лепш на пакрывале, а хадзіць — абавязкова ў абутку. Медыкі таксама рэкамендуюць турыстам пазбягаць дзікіх месцаў і прыслухоўвацца да рэкамендацый турфірм.

У выпадку ўзнікнення сімптомаў нейкага захворвання пасля прыбыцця ў Беларусь неабходна абавязкова звярнуцца да ўрача і расказаць пра наведванне экзатычных краін.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*

# У Мінскім раёне загінуў рыбак, як зачапіўся вудай за высакавольтныя правады

**У Мінскім раёне 7 мая ў выніку няшчаснага выпадку загінуў рыбак.**

Як паведамілі БелаПАН у праваахоўных органах, трагедыя здарылася блізу вёскі Пашкавічы. Мужчына 1961 года нараджэння выпадкова зачапіў раскладзенай вудай высакавольтныя правады. Ад атрыманага ўдару токам ён памёр на месцы.

Праводзіцца праверка.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

## Віншаванкі

### Алёну Сяргееўну Капшуль

**Віншуем з нагоды Дня народзін.**

Поздравить рады с днем рожденья,  
Здоровья, счастья пожелать,  
С улыбкой, добрым настроеньем  
Свой путь по жизни продолжать.  
Пусть каждый твой обычный день  
В прекрасный праздник превратится,  
И никогда печали тень  
В твоих глазах не отразится!

*Сябры па працы.*



# Мінімальная заработная плата за красавік не індэксуецца

**Мінімальная заработная плата (МЗП) за красавік бягучага года не індэксуецца, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за красавік да студзеня бягучага года не перавысіў пяціпрацэнтны парог. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны Беларусі.**

Месячная мінімальная заработная плата складае Br1 млн. 395 тыс., пагадзінная мінімальная заработная плата - Br8 тыс. 340.

Згодна з законам «Аб устанаўленні і парадку павышэння памеру мінімальнай заработнай платы» памер МЗП, устаноўлены і праіндэксаваны ў адпаведнасці з заканадаўствам, з'яўляецца абавязковым для наймальніка ў якасці ніжэйшай мяжы аплаты працы работнікаў.

*Алена Прус - БЕЛТА.*



# Смяротны зыход

**У бедах, якія абрынуліся на чалавецтва, - алкагалізм, п'янства і курэнне, якія займаюць лідыруючыя пазіцыі разам з тэрарызмам і войнамі, невылечнымі хваробамі і галадам... Надзвычай востра ўстае гэта праблема і ў нашай краіне. Не выключэнне і Глыбоцкі раён.**

Аператыўныя дадзеныя МНС сведчаць пра тое, што галоўнай прычынай большасці здарэнняў са смяротным зыходам з'яўляецца п'янства.

На вялікі жаль, сумная статыстыка расце і гэта бачна па зводках Глыбоцкага раённага аддзела па НС. Шматлікія грамадзяне, злоўжываючы спіртнымі напоямі, губляюць сваё здароўе, сваё жыццё, у тым ліку і на пажарах. У 2013 годзе ў Глыбоцкім раёне на пажарах загінула 4 чалавекі, з іх у стане алкагольнага ап'янення – 3 чалавекі.

Апошні пажар панёс жыццё чалавека:

06.05.2013 года ў г. Глыбокае адбыўся пажар у жылым доме гр-кі Л., на месцы пажару выяўлены труп сына гаспадыні дома гр-на В. Падчас правядзення папярэдняй праверкі ўсталявана, што напярэдадні пажару гр-н В. знаходзіўся ў нецвярозым стане. Гэтак жа дапушчалася ім курэнне ў стане алкагольнага ап'янення ў жылых памяшканнях. Меркаваная прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні гр-на В. у стане алкагольнага ап'янення.

Глыбоцкі РАНС звяртаецца з просьбай да ўсіх жыхароў раёна звярнуць увагу на свае паводзіны і паводзіны сваіх родных і блізкіх ў побыце пры абыходжанні з агнём і нагадвае пра недапушчэнне курэння ў жылых памяшканнях, каб надалей пазбегнуць падобных выпадкаў.

*Інспекцыя ДПН Глыбоцкага РАНС*

# Інспекцыя ДПН праверыла Мацюкоўскую школу

**Інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду ў красавіку 2013 года завершана правядзенне планавай праверкі ДУА «Мацюкоўская пачатковая школа Глыбоцкага раёна» в. Мацюкова, Плiскага с/С.**

Як паказала абследаванне, кіраўніцтвам суб'екта надаецца вызначаная ўвага забеспячэнню пажарнай бяспекі. Аднак маюць месца наступныя парушэнні:

- будынак школы не абсталяваны спраўнай маланкаабаронай;
- не праведзена вогнеабаронная апрацоўка драўляных будаўнічых канструкцый паддашкавага памяшкання будынка школы,
- будынак школы не забяспечаны ліхтарамі на выпадак адключэння электраэнергіі.

Па выніках праверкі загадчыцы ДУА «Мацюкоўская пачатковая школа Глыбоцкага раёна» Грыгаровіч М.К. уручаны акт праверкі, прынятыя меры адміністрацыйнага ўздзеяння.

*Інспекцыя ДПН Глыбоцкага РАНС*

